# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 52 (1754) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 24 СНЕЖНЯ 1989 г. ЦАНА 250 зл.



Так выглядаў другі будынак Беларускага музея ў Гайнаўцы ў верасні 1989 г.

## НАШ МУЗЕЙ, БЕЛАРУСКІ

Што і гаварыць, будова Беларускага музея ў Гайнаўцы прыпала на кепскія часы.

А барацьба за гэту будову была прыярытэтнай справай для БГКТ на працягу, можна сказаць, усяго яго існавання. Лёс сабраных экспанатаў, якія толькі нейкі час дэманстраваліся на этнічна беларускай тэрыторыі, а пасля завандравалі ў чужы ім Цехановец, пераконваў беларускіх дзеячоў, што толькі салідны, стабільны, асобны будынак, пастаўлены ў адпаведным месцы, дасць нейкую гарантыю на тое, што экспанаты не толькі не прападуць, але будуць беражліва захоўвацца і дэманстравацца.

Пасля доўгай калатні наконт месца пабудовы музея, у 1983 годзе было нарэшце вырашана будаваць яго ў Гайнаўцы. Менавіта там знаходзілася старая мазаікарня, дзе калісьці выраблялі паркет. Яна стаяла, нікому не патрэбная, бо пры тартаку пабудавалі ўжо новую, лепшую. А можна ж было яшчэ яе выкарыстаць. БГКТ пераняло яе, і такім чынам мазаікарня стала пачаткам будучага комплексу музейных будынкаў.

Патрэбны яшчэ быў чалавек з адпаведным вопытам, які б умеў і хацеў узяць на сябе адказнасць за стварэнне Беларускага музея. Такім чалавекам у нашых умовах мог быць толькі Канстанцін Майсеня, тагачасны намеснік старшыні ГП БГКТ. У яго ўжо быў шматгадовы вопыт па будове цэлай сеткі ГСаўскіх крамаў на Гайнаўшчыне, а таксама вопыт у БГКТоўскай і гаспадарчай дзейнасці.

Канстанцін Майсеня ўзначальвае, такім чынам, Грамадскі камітэт пабудовы музея з афіцыйнай назвай Музей помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху.

І тады разгарэліся спрэчкі вакол назвы музея. Прапановы былі розныя. Не толькі эмігранты, але і большасці мясцовых беларусаў не падабалася гэта назва. Беларускі музей — такая простая і ясная назва, такая традыцыйная і шматзначная, гаварылі ..., чаго ж яшчэ трэба! Арганізатары тлумачылі, што фактычна рэвалюцыйны рух у Гайнаўцы — гэта і ёсць рух беларускі... І так дыскусія працягваецца да сёння, ды, дай Божа, каб не цягнулася яна так доўга, як перагаворы наконт будовы музея наогул.

Будоўля была запланавана з вялікім размахам. Каб кожны беларус, нават з найбольш аддаленых куткоў свету, мог прыехаць сюды і паўспамінаць (а мо ўжо нават толькі пазнаёміцца), як жылі і якімі прыладамі карысталіся яго дзяды і прадзеды, убачыць часцінку іх паэтычнай душы ў старых мастацкіх вырабах. І каб беларус тут мог заадно адпачыць — ля векавой пушчы, сярод сваіх... Памятаю, як у рэдакцыю заходзіў Канстанцін Майсеня з праектамі і з жарам расказваў, дзе і што ў музеі будзе.

І вось музей набраў рэальных кшталтаў. Сёлета мне двойчы давялося наведаць яго. І зноў, як некалі ўпэўнена абводзячы нас па будоўлі, Майсеня з жарам расказвае нам пра музей і паказвае, дзе тут і што. Але цяпер ужо не на паперы. Цудоўна пахне свежай фарбай...

Музей будзе складацца з трох будынкаў. Адзін з іх ужо амаль

(Працяг на стар. 5)




Дваццатыя гады ў БССР называюцца часта „перыядам беларусізацыі“. З аднаго боку бачым буйнае развіццё культуры, навукі і мастацтва, з другога — ведаем пра пашырэнне абсягу ўжывання беларускай мовы на ўсе сферы грамадскага і палітычнага жыцця. Былі створаны Беларускі дзяржаўны універсітэт, Акадэмія навук, тэатры, музеі, школьніцтва. Вырасла пакаленне свядомай інтэлігенцыі, якому, зрэшты, прыйшлося адпакутваць у наступнай дэкадзе, калі сталінскі рэжым распраўляўся з „нацдэмшчынай“.

**Гэта больш-менш ведаем, але ўяўленне пра штодзённае жыццё ў тыя гады ўсё яшчэ вельмі цьмянае, і толькі ў апошні час адкрываецца крыху больш фактаў. Зараз карыстаемся нагодай пагутарыць з Інай Рытар (А. Саковіч) з Кліўленда (ЗША), студэнткай гісторыі БДУ ў 1923—1927 гады, каб крыху наблізіць нашым чытачам гэтую цікавую эпоху.**

**— Калі вы пачалі вучыцца ў БДУ?**

— Вучобу пачала ў 1923 г. на сацыял-гістарычным аддзяленні Педагагічнага факультэта БДУ. Рэктарам БДУ быў тады заслужаны праф. Уладзімір Пічэта, дэканам педфака — праф. Міхаіл Піятуховіч.

**— Як вы ўспамінаеце гады сваёй вучобы?**

— З пачуццём праўдзівай любасці. Энтузіязм і ахвота да працы панавалі. Гісторыя Беларусі была для нас цікавай і захапляючай. Мы верылі, што нашы прафесары (Мітрафан Доўнар-Запольскі, У. Пічэта, Усевалад Ігнатоўскі і іншыя) — людзі з вялікім навуковым вопытам, што яны жадаюць дабра Беларусі, жадаюць дабра нам, маладым. Пад іх уплывам студэнты-гісторыкі канцэнтравалі сваю даследчую ўвагу на вывучэнні гісторыі беларускага народа.

**— На якой мове вяліся заняткі?**

— На беларускай і рускай. Прафесары і дацэнты беларускага паходжання чыталі лекцыі, вялі семінары на беларускай мове. Тут варта ўспомніць праф.

(Працяг на стар. 6)

СПАКОЙНАГА, ДОБРАГА, САРДЭЧНАГА СВЯТА ПРЫ ЁЛЦЫ ЖАДАЕ СВАІМ СІМПАТЫКАМ „НІВА“

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

РЫХТУЕМСЯ ДА ЁЛКІ

Станіслаў Шушкевіч

### МЫ НІКУДЫ НЕ ДЗЕЛІСЯ

Паглядаю я наўкола,
Зайчаняткі мае,
На палянцы пуста, гола,
Вас тут, мілых, не стае...

— Не бядуй, мамусенька!
Мы ад цябе блізюсенька!
Потырч з гурбы кулямся,
Тут мы! Тут мы! Сям'я ўся!

Мы нікуды не дзеліся —
Мы ў белае адзеліся!



### ЛІСА ЗАЙЧЫКА НЕ ЗНОЙДЗЕ

Бяжыць зайчык па мяжы,
Аглядаецца, дрыжыць,
Бо з асіны недалёкай
Яму крыкнула сарока:
— На гасцінцы, ля прысад
Бяжыць хітрая ліса!
Скокні ўбок, там, дзе кусты,
У хмызняк залезь густы,
Снег глыбокі разграбі,
Схованку сабе зрабі.

Ліса выгнула спіну:
— Куды ж заяц шугануў?
Дзе падзеўся, дзе ён, дзе?
Мо не ўмела я глядзець?
Пайду я ў сваю нару
За высокую гару.
Ноччу дрэнна часам спіцца,
Можа, зайчык днём прысніцца?
Бо ўжо зайца нават днём
Не знайсці цяпер з агнём.
Нават воўк, зубаты злодзей
Зайчыка цяпер не знойдзе.

Віктар Гардзей

### СІНІЦА

У мароз на аканіцу
Села сіняя сініца.
Можа, просіцца у хату?
Адчыняе фортку тата.
Ды сініца паглядзела,
Не схацела, паляцела.
Вось дзівачка, вось дурніца
Гэта сіняя сініца!
Ад марозу пасінела,
А ў цяпло не захацела...

### БЕЛЯЧОК

Ранкам зайчык-белячок
З-пад куста на сцежку —
скок.
Толькі міма дрэў прабег,
Бачыць — снег,
Навокал снег.
Засмяяўся белячок:
— Ой, пайшоў, пайшоў сняжок!
Ну, цяпер мяне і днём
Воўк не згледзіць
Пад кустом.



### СОН

— Сёння, унучак, я прыснілась,
Што куплю табе канькі.
— А што болей?
— Ды забыла —
Сон няясны быў такі.

Тых канькоў унуку мала,
І бабульцы кажа ён:
— Акуляры б не здымала,
То другі б прысніўся сон.

### СНЯЖЫНКІ

— Паглядзі на двор, Дашуля,
Як сняжок іскрыцца!
Дзед Мароз сваю кашулю
Вытрасае быццам.

— Не, — адказвае Даронка, —
Там сняжынкі ззяюць,
Бо з мяшка ад падарункаў
Пыл дзед вытрасае!



### ПЕРАПІСКА

Коцік мышкам ліст даслаў:
„Я ніколі не злаваў
На вас, мышкі, верце.
А што футра дзе парваў,
То не я, а кіпцік!"

Мышкі коціку назад
Адпісалі: „Коцік, брат,
Хлусіш ты, найначай.
І праз кіпцік — памаўчы...
Бо чаму ж
Мы так пішчым,
Калі цябе ўбачым?"

### СВІТАНАК

Кожнай раніцай Таццяну
Будзіць ласкавы світанак,
Будзіць цвірканнем сінічка,
Неба светлая крынічка,
Будзіць мама: „Уставай!
На стале чакае чай,
Абаранкі, мёд, пячэнне
І салодкае варэнне..."
Шэпча Таня ёй на вушка:
„Саладзей за ўсё —
Падушка!"

Ігар Сідарук
Кобрын



Удзельнікі конкурсу „Бела[illegible] Дубінах.
[illegible] Чарнякевіч.

Мікола Корзун

## ЗНАХОДКА

Стаяў прыгожы зімовы дзень. Ярка свяціла сонца. Поле ад сяла і да самага лесу здавалася вялізнай іскрыстай прасцінай.

Я і Лёня не ведалі, як лепш правесці выхадны дзень. Прыдумвалі розныя гульні, але яны ні яму, ні мне не падабаліся.

Нарэшце я прапанаваў:

— Давай паедзем на лыжах у лес.

Лёня зірнуў на мяне і абыякава адказаў:

— Надакучыла. Усё на лыжах і на лыжах. Мы ж і ўчора ездзілі...

— Дык гэта ж у лес. Там мы ні разу не былі гэтай зімой.

— Ну добра, угаварыў, — згадзіўся Лёня.

Мы апрануліся па-спартыўнаму, сталі на лыжы і паехалі.

Як толькі выехалі за сяло, у твар падзьмуў калючы вецер. Лёня моршчыўся, плюшчыў вочы. Ён адставаў і злаваўся. Мне прыходзілася раз-пораз спыняцца і чакаць яго.

Нарэшце ўехалі ў лес. Тут адразу стала зацішней. Затое ехаць пацяжэла: лыжы глыбока праваліваліся ў мяккім, як вата, снезе. Маладзенькія елачкі між старых дрэў нагадвалі белыя стожкі, над якімі тырчаць зялёныя пруцікі.

Часам хто-небудзь з нас закранаў навіслыя над лясной сцяжынкай галіны. Яны ўздрыгвалі, скідвалі долу белыя падушкі, церусілі серабрысты пыл.

Лёня звярнуў убок, спыніўся паклікаў мяне. На круглай паляне стаяла невялікае каржакаватае дрэва. Ствол яго ўверсе раздвойваўся, як рагатка. Крона круглая, шырокая, але рэдкая. На тоненькіх, быццам драцяных, галінках тырчэлі вострыя іголкі.

— Першы раз бачу ў лесе яблыню, — сказаў Лёня.

— А што дзіўнага? Гэта ж дзічка, — адказаў я. І тут у мяне мільганула думка: „На ёй, напэўна, былі яблыкі. А калі так, то цяпер яны на зямлі, пад снегам".

Я зняў лыжы і пачаў разграбаць снег. Ён быў мяккі і сыпучы, як мука.

— Што ты робіш? — здзівіўся Лёня.

— Яблыкі шукаю.

— Што?! Ха-ха-ха!.. Якія цяпер яблыкі? Ты з глузду з'ехаў? Ды кінь ты, не смяшы мяне.

— Смейся, калі маеш ахвоту

— На ёй і не магло быць яблыкаў, бо яна лясная і ніхто яе не даглядаў. А калі і вырасла колькі, дык увосень апалі і іх птушкі здзяўблі. І наогул, ты мабыць, ніколі не каштаваў дзікіх яблыкаў, бо не гроб бы снег, як барсук. Яны ж кіслей за воцат..

Я не зважаў на насмешкі сябра. І вось на дне ямы паказалася леташняя трава, зашамацела сухое лісце, падобнае на кавалачкі ржавай бляхі. Я прыгаршчамі выкідваў усё на снег. Раптам у руку мне трапіў невялікі цвёрды шарык. Яблык!. Адзін бок яго быў бледна-жоў-

(Працяг на стар. 10)

„Ніва"
24 XII 1989 г

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) арыгінальнае, асобае адзенне, 4) паўднёвае хвойнае дрэва, 8) перад табой цяпер, 11) птушка, якая любіць чарэшні і вішні, 12) вялікі горад на Сібіры, 13) не цяжкія ў грудной клетцы, 15) дасканалае апраўданне, 16) калі пазяхаеш, то ён „дзярэцца", 17) здзіраеш іх з печанай бульбы, 19) казацкі правадыр, 21) мяч у варотах, 22) робіш у ёй пакупкі, 23) промах, хіба, няўдача, 25) вялікі сход дэлегатаў, 27) калі ты за ім — ён ад цябе, калі ты ад яго — ён за табой, 28) працуе ў кузні, 30) прах, 31) дыяграма крывых ліній або дэталёвы план работы.

**Уніз:** 1) каталіцкі манастыр, 2) з арэнай, 3) з жонкай, 5) ціхаакіянская сардзіна з сям'і селядцовых, 6) адзінка ўліку ў спорце, 7) чувач, калі праце той 3-пад 28 упоперак, 8) людаедства, 9) дзяржава ў Афрыцы, 10) Джордж Буш, 13) а, 14) часам бывае на барадзе, 18) дачка дачкі, 20) шырокая грунтавая дарога, 21) „Звязда", 24) траюрадны брат, 26) мае яе кожны дзень, 27) матэрыя, рэчыва або арганізм чалавека, жывёлы, 29) усямоцны, неабсяжны.

„ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 46:**

**Упоперак:** куток, вёска, люты, лісце, абраза, тара, камяк, трубка, памада, актава, акрапец, краса, рэха, рыдван, Лазар, стол, дрыль, яблык.

**Уніз:** калок, тасьма, клетка, выбар, скарб, атака, тартак, апёк, ямка, удар, квас, дацэнт, ткалля, вакзал, абрад, родны, ерась, аброк.

# НІЎКА

— А цяпер хачу, каб святы Мікалай прынёс мне яшчэ брацiка...

# АФАРЫЗМЫ

Хопіць сапраўднага болю, каб вылечыць нас ад уяўных пакутаў.

*

Тое, што ў палітыцы пачынаецца ад страху, канчаецца шаленствам.

*

Праўда ў яшчэ большай ступені, чым Справядлівасць, сляпая і патрабуе Мудрасці як праваднiка.

*

Няхай мяне неба зберажэ ад сучаснай эпідэміі: ганарыстага невуцтва.

*

Пігмейскія розумы, судзячы іншых паводле сябе, клічуць: „Якая пачвара!" — калі бачаць чалавека.

*

Карыснае, прыемнае, прыгожае і добрае — не з'яўляюцца тым самым.

**Самюэл Тэйлар Колрыдж**

## НОВЫЯ ГІСТОРЫІ АБ ХОДЖЫ НАСРЭДЗІНЕ

Восьмага сакавіка мужчыны сабраліся ў чайхане. Адзін гаворыць:

— Я сёння заходзіў да Аваза. Вось гэта муж! Жонка а палове адзінаццатай раніцы яшчэ ў пасцелі. І ён нясе ёй снеданне!

— Ведаю, — сказаў Ходжа Насрэдзін. — Яна напярэдадні бегала па магазінах, каб купіць усё патрэбнае на святочны стол. Пакаўзнулася і зламала нагу.

* * *

Размяркоўваюць дачы. Усе хвалююцца. Ходжа Насрэдзін спакойна гаварыць:

— Каб узяць дачу, неабходна дача хабару.

* * *

— У мяне сёння шчаслівы дзень, — сказаў сябрам Ходжа Насрэдзін. — Укралі мае „Жыгулі".

Усе здзівіліся: чаго тут цешыцца?

— Я магу як належыць выпіць разам з вамі. І не турбавацца, як я паваду машыну.

**Мурад Тылаеў**

З „Літаратурнай газеты"

## ЦІ МОЖНА ДАВЯРАЦЬ ХІРУРГУ?

**На аперацыю ў шпіталь**
**Матуля прывязла сыночка.**
**Пярсцёнак праглынуў, на жаль,**
**З брыльянтавым каштоўным вочк...**

**Пытае ўсіх, ці давяраць**
**Можна хірургу маладому?**
**Стараюцца пераканаць:**
**Сумленны ён, усім вядома.**

**Віктар Швед**

## ЗАВОЧНІЦА

**Упершыню юнак пацалаваў**
**дзяўчыну**
**І запытаў з дакорам праз**
**хвіліну:**
**— Ці можаш, любая, прызнацца,**
**Хто навучыў цябе так**
**цалавацца?**
**Ты пацалунак так прымаеш,**
**Як быццам добры вопыт маеш.**
**І тут яна не разгубілася:**
**— Завочна, любы, навучылася.**

**Сымён Пацёмкін**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ОЙ, ЗІМА, ЗІМА, ТЫ МАРОЗНАЯ
**(народная)**

*— Ой, зіма, зіма, ты марозная,*
*Нашто ж ты каня, эй,*
*замарозіла?**

*Каня белага, сівагрывага,*
*Хлопца й малойца, ёй,*
*чарнабрывага.*

*А ў таго хлопца кучары ўюцца,*
*За яго кудры, эй, дзяўчаты*
*б'юцца.*

*— Вы ж не біцеся, не сварыцеся,*
*За мае кудры, эй, памірыцеся.*

*А мае кудры ўюцца не для вас,*
*Ёсць у мяне дзяўчына —*
*лепшая ад вас,*

*Яна мяне ў бой выпраўжала,*
*Яна мае кудры пазавівала.*

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Не спяшаючыся, з рухам ♩=66

Сола: — Ой, зі- ма, зі- ма, ты ма- ро- зна- я,

Хор: на- што ж ты ка- ня, эй, за- ма- ро- зі- ла?



# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чарнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne bez względu na miejsce zamieszkania
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1990 r. upływa 20 lutego 1990 r. włącznie
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 3.250 zł + 1.300 zł za doręczanie
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa ul. Towarowa 28 Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

- prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy)
- rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach)
- prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 1732/89. Nakład 5.300. T-3.